*Зянон Пазьняк: Гэта яшчэ адна пароза дыктатара (стар. 2)*
*Тры дні паходу — чатыры суды (стар. 3) Маскоўскія спецслужбы ахоўваюць Лукашэнку (стар. 3)*


# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 46.950
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

22 кастрычніка 1996 г. | № 80 | Кошт свабодны


## Мітынг для памяркоўных

### *Шырокая апазіцыя карэктуе метады*

У мінулыя пятніцу і суботу аб'яднаныя сілы апазіцыі (за выключэннем камуністаў) правялі Нацыянальны кангрэс і мітынг пад агульным лозунгам «У абарону Канстытуцыі — супраць дыктатуры». Гэтыя мерапрыемствы знаяна адрозніваліся па стылі і метадах ад ранейшай практыкі апазіцыйнай барацьбы.

Акрамя палітычных мэтаў, арганізатары акцый яўна ставілі і звышзадачу: скарэктаваць імідж апазіцыі, надаць ёй больш прывабны, салідны выгляд. *«Высокая палітычная культура — вось дэвіз нашага мітынгу»,* — сказаў Генадзь Карпенка ля Опернага тэатра, дзе сабраліся мітынгоўцы ў суботу. Гэтая фраза цалкам характарызуе і Кангрэс, які адбыўся ў пятніцу ў Рэспубліканскім палацы прафсаюзаў. Менавіта Кангрэс задаў высокі тон мітынгу, ўвёў яго ў рамкі, у якіх аказалася цесна прыхільнікам актыўных дзеянняў. Згодна з дадзенымі арганізатараў, на Кангрэс з розных куткоў Беларусі з'ехалася больш за 1.200 дэлегатаў, якія прадстаўлялі самыя розныя працоўныя калектывы і мясцовыя арганізацыі дэмакратычных партыяў. З'ехаліся гэтыя людзі добраахвотна, па закліку сэрца, каб процістаяць дыктатуры.

Аднак вазьму на сябе смеласць сцвярджаць: Кангрэс задумваўся як альтэрнатыва не толькі прэзідэнту, але яшчэ і таму стылю палітычнай барацьбы, які быў характэрны для мінулай вясны. Сімвалам такога — наступальнага і рашучага — стылю даўно стаў Беларускі народны фронт. А на думку арганізатараў Кангрэса, рашучасць трэба дапоўніць рэпрэзентатыўнасцю. Жорсткае процідзеянне звужае сацыяльную базу змагання з дыктатурай, адсякае ад барацьбы дзеячаў, чые імёны маглі б узмацніць і ўпрыгожыць шэрагі апазіцыі. І таму зусім невыпадковым выглядае той факт, што аўтарам мерапрыемства выступаў не БНФ: асноўны цяжар арганізацыйных праблемаў узялі на сябе «штаб» Г.Карпенкі, які ўзначаліў Юрый Захаранка, а таксама актывісты грамадскага цэнтра «Беларуская перспектыва». А гэта, як вядома, — «умераныя» франтаўцы і маладыя беспартыйныя, якія цяпер актыўна шукаюць сваю палітычную нішу.

Адзначу адразу, што першую мэту — пашырыць кола вядомых дзеячаў — ім дасягнуць удалося. У прэзідыуме Кангрэса сабраліся такія вядомыя асобы, як Г.Таразевіч, С.Шушкевіч, Г.Бураўкін, Г.Карпенка, Ю.Захаранка, А.Бухвостаў, Ю.Хадыка, С.Багданкевіч і Янка Брыль (пералік астатніх гучных імёнаў заняў бы вельмі шмат часу). Але што тычыцца сацыяльнай базы прыхільнікаў апазіцыі, то яе пашырыць будзе значна цяжэй. Ва ўсякім разе, мітынг на плошчы Парыжскай камуны прадэманстраваў, што вялікі спіс ганаровага прэзідыума зусім не гарантуе вялікую колькасць дэманстрантаў. Хаця, з другога боку, колькасць «антыпрэзідэнцкіх» бюлетэняў на будучым рэферэндуме не абавязкова будзе адпавядаць колькасці мітынгоўшчыкаў. Магчыма, нават наадварот.

Гэта, напэўна, будзе залежаць ад таго, з якімі аргументамі звернуцца да грамадскасці апаненты прэзідэнта і ці змогуць яны данесці свае ідэі. Кангрэс у гэтым сэнсе павінен быў стаць трыбунай, з якой планавалася агучыць сістэму контрдоказаў.

*(Працяг на стар. 2)*



## Францужанку адпусцілі. Расіяне арыштаваныя

**Учора, 21 кастрычніка, Цэнтральны райсуд Мінска разглядаў справы ў дачыненні да сямі хлопцаў, якія бралі ўдзел у суботнім мітынгу супраць дыктатуры.**

Міліцыя затрымала групу юнакоў ужо пасля мітынгу — у 17 гадзін, калі яны выходзілі з сталічнага універсама «Рыга», што на вул. Сурганава.

Спачатку ім запынілі дарогу пяць чалавек у цывільным, а потым пад'ехаў аўтобус з амонаўцамі, якія іх схапілі і пакідалі ў салон. Затрыманых адвезлі ў Савецкі РАУС. Пасля кароткай размовы міліцыянты адпусцілі грамадзянку Францыі, якая была сярод юнакоў. На сем хлопцаў, у тым ліку грамадзянаў Расіі, жыхароў Масквы Уладзіміра Платоненку і Пятра Рабава былі складзеныя пратаколы «за знявагу ўлады». Пасля ўсіх іх адвезлі ў спецразмеркавальнік, што на вул.Прылуцкай. У панядзелак абодва масквічы і жыхар горада Гомеля Аляксандр Айнудзінаў былі асуджаныя на 5 сутак арышту; трое беларусаў атрымалі па 300 тыс.рублёў штрафу кожны. А вось Станіслаў Пачобут запатрабаваў адваката, таму яго справу адправілі на даследаванне.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Стрэл па машыне Карпенкі

**Учора, 21 кастрычніка, у цэнтры Мінска на скрыжаванні праспекта Скарыны і вуліцы Сурганава быў абстраляны аўтамабіль, у якім звычайна ездзіць на працу Г.Карпенка.**

Аўтамабіль *Volkswagen-Jetta* (нумар 88-98 КК) належыць Міхаілу Фёдаравічу Езупчыку, даўняму сябру Генадзя Карпенкі. Амаль кожны дзень Езупчык на сваім аўтамабілі падвозіць на працу намесніка старшыні ВС. 21 кастрычніка, прыблізна ў 12:20, Езупчык адзін ехаў па вул.Сурганава з боку Батанічнага сада. За некалькі хвілін да інцыдэнту ён патэлефанаваў у прыёмную Карпенкі, паведаміўшы, што неўзабаве пад'едзе да будынка парламента. На скрыжаванні з пр.Скарыны, паводле словаў Езупчыка, ён раптам убачыў, як ззаду яго аўтамабіль аб'язджаюць дзве іншамаркі. У адной з іх Езупчык заўважыў чалавека з пісталетам, які даволі моцна высунуўся з вакна сваёй машыны. Прагучаў стрэл. Аўтамабілі рэзка павярнулі направа і паехалі па пр.Скарыны. Куля ўвайшла ў пярэднія дзверы на вышыні сядзення. Карэспандэнту СВАБОДЫ Генадзь Карпенка паведаміў, што Езупчык апошнія дні гаварыў, што за ім відавочна сочаць. Па факце стрэлу ў аўтамабіль сп.Езупчык звярнуўся ў органы ўнутраных справаў.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

**АВАНТУРА**

## Такі быў план

**Сёння мы зноў публікуем той дакумент, які быў выпушчаны ў свет у пятніцу, 18 кастрычніка, у экстранным выпуску газеты СВАБОДА.**

Мы не сумняваемся ў сапраўднасці гэтай «Дакладной запіскі» і спадзяёмся, што Пракуратура РБ, якая ўжо ўзбудзіла справу па факце публікацыі і пачала следства, знойдзе пацверджанне, што на 19 кастрычніка сапраўды планавалася крывавая акцыя расправы над дэманстрантамі. Безумоўна, генералы і палкоўнікі будуць заяўляць следчым, што нічога падобнага не рыхтавалася. Але Пракуратура мае магчымасць дапытаць і снайпераў, і аўтаматчыкаў, і многіх іншых, хто павінен быў ажыццявіць *«решения суженного заседания штаба»*.

Тыя афіцэры ўнутраных войскаў, якія рызыкнулі зрабіць копію «дакладной запіскі» і перадалі яе ў СВАБОДУ, па сутнасці сарвалі планы авантурыстаў і ўратавалі жыцці многіх людзей. Прыйдзе час, і гэтыя афіцэры змогуць назваць сябе — яны заслугоўваюць нацыянальнага прызнання. А пакуль мы просім іх знайсці любыя магчымыя спосабы і паведаміць нам (альбо ў Пракуратуру) прозвішчы тых вайскоўцаў, якіх рыхтавалі да прымянення зброі. Яны яшчэ не ўчынілі злачынства, і ў іхніх інтарэсах, каб Пракуратура змагла дакапацца да праўды. Калі ўдасца даказаць гэтыя крывавыя планы, то з'явіцца пэўная гарантыя, што ў наступны раз такое не задумаюць.

**Заместителю Командующего - начальнику оперативной и боевой подготовки внутренних войск**

**Докладная записка**

15.10.96 № 439

**О результатах выполнения распоряжения по подготовке сил и средств к охране общественного порядка 19 - 20 октября 1996 года.**

Докладываю, что решения с уженного заседания штаба корпуса охраны общественного порядка в соединениях и частях корпуса выполнены в полном обьеме. Оперативная информация о предполагаемых действиях "Белого легиона" получена. Источник достоверен.

Личный состав готов к выполнению любых задач, в самой сложной обстановке.

Огневые группы из расчета 4 снайпера и 12 автоматчиков в каждом элементе боевого порядка подготовлены и готовы к применению оружия по хулиганствующим элементам. Требования УБС о порядке применения оружия изучены и приняты зачеты под роспись.

Боевая техника: бронетранспортеры, БРДМ согласно ранее проводимого расчета подготовлены, обслуживание произведено. Боезапас: 1 комплект боевой, 2 - холостых.

Группы применения специальных средств "Черемуха", "Ольха" и "Омут" подготовлены. На специальном полигоне в районе населенного пункта Мстиги Заславского района проведено их боевое слаживание. Дополнительно получено на армейских складах п. Речица специальное средство под кодовым названием "Пион". Группа применения его готовится. Однако в силу того, что специалистов по его применению нет в войсках в облвоенкомат г. Витебска направлены работники ОМУ для срочного призыва специалистов запаса ( 2 офицера и 1 прапорщик). Список офицеров прилагается.

Вместе с тем в силу того, что его применение может поразить большое количество людей в т.ч. женщин и детей считаю целесообразным применять его только в исключительном случае.

Специалистов - инструкторов отряда "Витязь" (г. Ростов - на - Дону) прибывших для подготовки офицерского состава практике уличных боев в г. Грозном целесообразно использовать одновременно во всех частях и подразделениях специального назначения с целью увеличения охвата личного состава для подготовки.

Водометные и пожарные машины корпуса в количестве 24 шт. к действиям готовы. Расчеты подготовлены. Сектора обстрела определены. Подключение к пожарным гидрантам на местах будет проведено в течении 3-5 минут.

Специалистов служебно-розыскных собак и служебных животных будут использованы только централизовано и при прорыве толпой милицейских заслонов в направлении Дворца Спорта.

Всего служебно-розыскных собак 73. Место сосредоточения: подсобное хозяйство учебного центра "Воловщина".

Фильтрационный пункт на войсковом стрельбище "Воловщина" готов принять до 2,5 тыс. задержанных. Условия для размещения имеются. Охрана организована. Инженерные и технические работы проведены. Выделенные 2 вертолетные эскадрилии из МО целесообразно передать войсковой части 3214.

С целью качественного выполнения поставленных задач прошу дополнительно выделить:

- по 2 заправки ГСМ на ПТ-76 (22 шт.);
- 49 КАМАЗов для переброски в г. Минск милицейских частей дислоцирующих в областных центрах.
- специальные средства "Амур" и "Тополь" из расчета на каждого офицера и прапорщика.

Начальник боевой подготовки корпуса охраны

полковник [подпись] А.А.Шкун

## Такога дакумента няма?

### *18 кастрычніка ў Вярхоўным Савеце прайшлі парламенцкія слуханні наконт інфармацыі, апублікаванай у экстранным выпуску СВАБОДЫ*

У пятніцу, 18 кастрычніка, на сесіі Вярхоўнага Савета прыблізна каля апоўдня ксеракопіі экстраннага выпуску СВАБОДЫ былі раздадзеныя дэпутатам, і ў 13 гадзін лідэр камуністаў Сяргей Калякін прапанаваў уключыць гэтае пытанне ў парадак дня сесіі. 106 дэпутатаў прагаласавалі за тое, каб у 14 гадзінаў у парламент прыйшлі прадстаўнікі сілавых структураў.

У прызначаны час у Вярхоўным Савеце з'явіліся першыя намеснікі: Генеральнага пракурора — Іван Сашчэка, старшыні КДБ — Леанід Ерын, міністра ўнутраных справаў — Юры Тарабрын. Шарэцкі аб'явіў, што кіраўнікі ўсіх гэтых ведамстваў менавіта у гэты самы час знаходзяцца ў прэзідэнта, дзе таксама вядуць размову вакол маючых адбыцца падзей 19 кастрычніка.

Першым выступаў Іван Сашчэка, які адразу заявіў, што пракуратура не мае ніякіх звестак, нібыта хто-небудзь рыхтуе непрадугледжаныя законам сілавыя акцыі. Сяргей Калякін задаў першаму намесніку Генеральнага пракурора пытанне, ці ведае яго ведамства пра тое, што ў некаторых гарадах Беларусі былі затрыманыя супрацоўнікі міліцыі, якія распаўсюджвалі ўлёткі правакацыйнага характару. Сп.Сашчэка пацвердзіў праўдзівасць гэтай інфармацыі, заявіўшы, што яна паступіла ў Пракуратуру 18 кастрычніка, у пятніцу, раніцай, па тэлефоне ад мясцовых пракурораў.

Першы намеснік старшыні КДБ Леанід Ерын ад імя свайго ведамства падкрэсліў, што КДБ не мае ніякага дачынення да апублікаванага СВАБОДАЙ дакумента. *«Ёсць падставы падазраваць, што 19 кастрычніка могуць быць справакаваныя незаконныя дзеянні»*, — заявіў Ерын. Ён паведаміў, што ў пятніцу раніцай у Мінск прыехала каля 20 чалавек з Украіны.

Адказваючы на іншыя пытанні дэпутатаў, Ерын пацвердзіў інфармацыю аб чатырох замахах на Лукашэнку, аднак адмовіўся паведамляць якія-небудзь падрабязнасці. Паводле Ерына, адзін выпадак — запіска пра бомбу ў Наваполацку — даволі вядомы, а наконт іншых існуе толькі аператыўная інфармацыя, паколькі, маўляў, вельмі цяжка даказаць сапраўднасць намераў «тэрарыстаў».

Бадай, найбольш канкрэтным было выступленне першага намесніка міністра ўнутраных справаў Юрыя Тарабрына. Тарабрын заявіў, што *«з дакументам не знаёмы, прозвішча такога не ведаю»*, і далей — *«звесткі не адпавядаюць рэчаіснасці»*. Першы намеснік міністра сказаў, што аўтарам дакумента ў СВАБОДЗЕ не вытрыманыя ніякія рамкі ўнутраных дакументаў МУС. Цікава, што ў той жа вечар па беларускім тэлебачанні кіраўнік унутраных войскаў генерал Сівакоў гаварыў зусім процілеглае: аўтар «дакладной запіскі» знаёмы з усімі правіламі і парадкам складання дакументаў МУС.

На заканчэнне слуханняў Сямён Шарэцкі паведаміў, што Генеральны пракурор распарадзіўся правесці расследаванне і ўзбудзіць справу па факце публікацыі ў экстранным выпуску СВАБОДЫ.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

СВАБОДА
22 кастрычніка 1996 г., № 80

# Мітынг для памяркоўных

(Пачатак на стар. 1)

Генадзь Карпенка свой даклад прысвяціў «сацыяльным дасягненням» двухгадовай дзейнасці прэзідэнта. У прыватнасці, Карпенка прывёў прыклад «турэцкага кантракту»: згодна з ім турэцкі крэдыт у 25 мільёнаў долараў ведамства Івана Ціцянкова збіраецца патраціць на будаўніцтва санаторыяў ды іншых аб'ектаў па абслугоўванні «прэзідэнцкай каманды». Рэжым ведае, што за злачынствы давядзецца несці адказнасць, і, каб пазбегнуць яе, усталёўвае дыктатуру аднаго чалавека, якую замацоўвае шляхам абалваньвання людзей, падсумаваў Генадзь Карпенка.

М.Грыб засяродзіў увагу на вартасцях і недахопах дзеючай Канстытуцыі і, па сутнасці, прапанаваў наступны план яе рэфармавання: прафесійны парламент; спалучэнне прэзідэнцкай пасады з функцыямі прэм'ера; падкантрольнасць Кабінета міністраў пракуратуры; канстытуцыйная ліквідацыя пазабюджэтных фондаў. Дырэктар парламенцкага інстытута заканадаўства А.Матусевіч прапанаваў весці прапаганду напярэдадні рэферэндуму шырэй, чым проста «супраць» або «за» прэзідэнта. Да аргументаў са сферы правоў чалавека раіць звярнуцца Ю.Хадыка. Спалучыць ідэю адраджэння з сённяшнімі стандартамі дэмакратычнага светапогляду, а потым ісці з гэтай тэорыяй у народ *(«хопіць пераконваць адзін аднаго»)* заклікаў удзельнікаў Кангрэса Пётр Краўчанка. Прэзідэнцкую бессістэмнасць і некампетэнтнасць у кіраванні краінай адзначыў Аляксандр Бухвостаў, а Ніл Гілевіч абвінаваціў Лукашэнку ў разбурэнні беларускай культуры, накіраваным на знішчэнне незалежнасці Беларусі.

Гэтыя тэзісы ў асноўным і ляглі ў фундамент дакументаў, якія прыняў Кангрэс, а днём пазней зацвердзіў мітынг на плошчы Парыжскай камуны. Акрамя жорсткіх палітычных ацэнак, у іх быў выказаны заклік да парламента адхіліць Лукашэнку законным шляхам ад прэзідэнцкай пасады. Адначасова былі прынятыя рашэнні, накіраваныя на ўзмацненне кантролю знізу: стварыць грамадскую камісію па наглядзе за рэферэндумам, правесці з'езд Саветаў, заснаваць на чале з Юрыем Захаранкам камісію па расследаванні злачынстваў рэжыму.

Лагічным працягам Кангрэсу сталі падзеі ў суботу. Пачаліся яны са збору на пл.Якуба Коласа больш за 15 тыс. дэманстрантаў. На мітынг прыехалі ўдзельнікі з Вілейкі, Маладзечна, Слуцка, Горак, Рагачова, Калінкавіч ды іншых месцаў. У 11 гадзін калона пад ахавай дружыннікаў і пры пільным наглядзе міліцыі крочыла па вядомым з 26 красавіка маршруце да Опернага тэатра. На чале ішлі Ю.Захаранка, Г.Карпенка, Ю.Хадыка, Г.Таразевіч ды іншыя вядомыя ўдзельнікі Кангрэсу. Потым большасць з іх выступіла на мітынгу перад 25 тысячамі ўдзельнікаў.

Трэба адзначыць, што арганізатары разлічвалі на большую аўдыторыю. Але, магчыма, памылкай было прызначэнне мітынга на 12 гадзінаў дня: самыя маладыя ў той час яшчэ сядзелі пад наглядам настаўнікаў у класах. У суботу па ўсіх школах Мінска было загадана трымаць старшакласнікаў за зачыненымі дзвярыма і складаць спісы тых, хто адсутнічаў. У дзяржаўных ВНУ паўсюль праходзілі рэктарскія праверкі. Дырэктарам камерцыйных ВНУ пагражалі, што калі іх студэнты будуць затрыманыя на мітынгу, незалежныя навучальныя ўстановы пазбавяць ліцэнзій.

Акрамя таго, гледзячы на сілавыя прыгатаванні ўладаў, многія вырашылі адседзецца па дамах. А сілавікі сапраўды ў той дзень дэманстравалі сваю здольнасць выканаць любы загад. Па праспекце Скарыны ў 10 гадзінаў прайшла ў цэнтр калона вайсковых машынаў і БТРаў. Вакол Палаца спорту ўсё было запоўнена аўтобусамі з міліцыяй і АМОНам. Траецкае прадмесце нашпігавалі спецназаўцамі ў касках і са шчытамі. Побач з Кафедральным саборам разгарнулі нават паходную кухню — як быццам улады рыхтаваліся да блакады на працягу не менш як двух дзён. Між тым выкарыстаць гэтыя сілы не давялося: пасля мітынгу некалькі тысячаў дэманстрантаў падышлі да павароту на праспект Машэрава, дзе прастаялі прыкладна гадзіну, чакаючы аўтобусы з удзельнікамі «ўсебеларускага сходу». Міліцыя спачатку спрабавала адцясніць людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі ў метро, але потым кінула гэты занятак. Пасля 16 гадзінаў на месцы магчымага, але так і не распачатага пабоішча засталіся толькі зявакі, ды расчараваныя ў арганізатарах мітынга аматары «прарываў».

Нагадаю, што ў 1995 годзе апазіцыя, каб сарваць рэферэндум, рашылася на адчайную галадоўку дэпутатаў. Цяпер абраная іншая тактыка. Новая апазіцыя паказвае ўмераны стыль супрацьстаяння. Маўляў, хопіць забяспечваць міліцыянтаў працай, а журналістаў навінамі. Трэба павышаць свой прэстыж, дэманструючы цывілізаванасць, збіраючы пад свае сцягі «памяркоўных» грамадзянаў. Каб праверыць, ці будзе мець поспех гэтае новаўвядзенне, засталося зусім няшмат часу. Да рэферэндуму — толькі месяц.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



*Раніцай 19 кастрычніка такую карціну — БТРы і грузавікі са спецназам — можна было назіраць у розных раёнах Мінска.*






*На здымках: мітынг каля Опернага тэатра традыцыйна праходзіў пад бел-чырвона-белымі сцягамі і антыпрэзідэнцкімі лозунгамі.*

# «Няправільныя» календары

**На Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа праблема: куды дзець 2 мільёны календароў кішэннага фармату, выпушчаных пад рэферэндум?**

На мінулым тыдні Мінскі паліграфкамбінат атрымаў загад адміністрацыі прэзідэнта ў тэрміновым парадку вырабіць 2 віды гэтых календарыкаў (па 1 млн. штук кожнага ўзору). На знешнім баку іх абавязкова павінен змяшчацца подпіс «Твой голос 7 ноября. Референдум». Людзі працавалі двое сутак, нават пазаўрочны час. Але раптам у пятніцу, 18 кастрычніка, у 15 гадзін дырэктару паліграфкамбіната пазваніў намеснік галавы адміністрацыі прэзідэнта М.Сазонаў і загадаў спыніць друкарскія станкі. А ўжо ў суботу людзі даведаліся, што стала гэтаму прычынай: Лукашэнка вырашыў усё ж перанесці свой рэферэндум на 24 лістапада.

Паліграфісты ў роспачы. Папершае, грошы за выкананы заказ прэзідэнцкая адміністрацыя не збіраецца плаціць. Па-другое, знішчыць надрукаванае шкада. На вытворчасць календарыкаў патрачана 24 тоны добрай паперы, шмат фарбы і інш. Таму кіраўніцтва камбіната прыняло саламонава рашэнне: заштрыхаваць срэбнай фарбай на каляндарыках словы «7 лістапада» і пакуль што схаваць іх на складзе.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Яшчэ адна параза дыктатара

**Зянон ПАЗЬНЯК**

Мірны мітынг пратэсту, які адбыўся ў Мінску 19 кастрычніка, ёсць псіхалагічная перамога над сіламі дыктатуры і акупацыі. Тое, што злачынныя вар'яцкія задумы Лукашэнкі ўжыць зброю супраць людзей (бронетранспарцёры, снайпераў, атрутны газ, верталёты і 73 сабакі) былі выяўленыя і апублікаваныя ў дэмакратычным друку, тое, што напярэдадні яны сталі вядомыя беларускай і сусветнай грамадскасці, — усё гэта вымусіла хунту ўстрымацца ад сваіх планаў, ад прамога ўжывання сілы, бо тыя, хто планаваў пабоішча, зразумелі, што цяпер зваліць віну на дэманстрантаў не ўдасца нават фармальна. 25 тысяч чалавек, што выйшлі ў Мінску на мітынг супраць антыпраўных дзеянняў Лукашэнкі і акупацыйнай палітыкі на Беларусі, прадэманстравалі сваю годнасць. Можна з упэўненасцю сказаць, што крывавы путч, які Лукашэнка рыхтаваў разам з расійскім генералам Лебедзем, праваліўся.

Могуць цяпер ганяць браневікі па вуліцах (што яны і робяць), могуць ачапіць войскамі і сабакамі Палац спорту, а Лукашэнка можа прамаўляць свой істэрычны маналог пад скрыгат гусеніц хоць паўдня — ніхто ўжо не паверыць, што ім нехта «пагражаў» сілай. Наша сіла — ў нашых ідэях, у нашым маральным нацыянальным адзінстве.

Людзі, якія спалохаліся хунты і не выйшлі на вуліцу, — гэтыя людзі паверылі, што хунта будзе забіваць. Вось цяпер няхай Лукашэнка радуецца сваёй перамозе над імі (а ён, пэўна, радуецца), хай радуецца, што людзі зразумелі, што ён забойца.

Так расплюшчваюцца вочы ашуканага грамадства.

Мяркую, што пасля таго, як выявіліся вар'яцкія планы Лукашэнкі супраць людзей, Народны фронт зноў павінен рашуча нагадаць дэпутатам парламента аб неабходнасці працэдуры імпічменту і адстаўкі прэзідэнта. Народны фронт павінен патрабаваць пракурорскага дазнання і парламенцкага расследавання лукашэнкаўскіх планаў аб збройным нападзе на людзей у Мінску.

Вымушаны зноў нагадаць, што толькі чалавек з нездаровай псіхікай, толькі той, хто шалёна ненавідзіць беларусаў і ўсё беларускае, мог планаваць цкаванне людзей нямецкімі аўчаркамі і рыхтаваць для гэтай расправы сабак. Аўчаркамі цкавалі бальшавікі і фашысты ў лагерах. Але чаго іншага можна чакаць ад прыхільніка Гітлера і «рынкавага сацыялізму». Не выпадкова, што ён ужо нават падрыхтаваў пад Мінскам у Валоўшчыне і канцэнтрацыйны лагер (пад назвай «фільтрацыйны пункт») на дзве з паловай тысячы чалавек.

Я не аднойчы папярэджваў, што ў пошуках ворагаў і ў барацьбе з імі Лукашэнка як тыповы параноік ніколі не спыніцца. Ёсць ужо дубінкі, палітзняволеныя і палітэмігранты. Будуць ахвяры, расстрэлы і ГУЛАГ. Будуць — колькі хопіць нявольніцтва ў рабскіх жылах, пакуль не вынішчаць да апошняга. За Бацькаўшчыну і свабоду, за годнасць і культуру — трэба змагацца. Змагацца ж могуць толькі свабодныя людзі. Бо свабодныя людзі не баяцца выпрабаванняў і нават ахвяр. Такіх людзей павінна з'явіцца ўсё больш і больш. Не сумняваюся, што ні дыктатуры, ні акупантам яны не пакінуць у Беларусі ніякіх надзей.

*19 кастрычніка 1996 г., Нью-Йорк*






*На здымках: на подступах да Палаца спорту, дзе праходзіў прэзідэнцкі сход, спецназ кантраляваў сітуацыю так, што мыш не праскочыць. Праход і праезд па праспекце Машэрава быў дазволены толькі па спецпропусках. Зразумела, што дэманстранты такіх пропускаў не мелі.*

# О планируемом в Беларуси референдуме

*Заявление Госдепартамента США*

На протяжении пяти лет со дня провозглашения Беларусью независимости Соединенные Штаты постоянно стремятся к плодотворным и дружеским отношениям с ее правительством. США хотят видеть демократическую Беларусь, идущую путем рыночных реформ. Эти преобразования необходимы для облегчения Беларуси интеграции в политическую и экономическую жизнь современной Европы и извлечения максимальной выгоды из международной торговли и инвестиций.

С провозглашением независимости Беларусью были сделаны определенные шаги на пути демократизации. Этот процесс, однако, находится сейчас под угрозой. Белорусскому народу предлагается стать на чью-либо сторону в противостоянии президента и парламента по вопросу о референдуме о внесении далеко идущих изменений в Конституцию. В предлагаемом проекте конституции не предусматривается разделение властей, защита свободы личности и главенство закона.

К сожалению, заявив о своем нежелании работать дальше с парламентом, президент Лукашенко становится на путь дальнейшего раскола страны. Мы обращаемся к президенту Лукашенко с призывом немедленно начать консультации с руководством парламента с целью поиска компромисса, который бы обеспечил соблюдение в стране важнейших прав человека, норм демократии и основных свобод.

*17 октября 1996 г.*

## Тры дні паходу – чатыры суды

**Учора, 21 кастрычніка, у Мінскім райсудзе адбываўся працэс над трыма кіраўнікамі Незалежнага прафсаюза шахцёраў з Салігорска В.Бабаедам, М.Зіміным і А.Альхоўскім.**

СВАБОДА пісала, што 16 кастрычніка каля 50 актывістаў прафсаюза гарнякоў выйшлі пешшу з Салігорска ў Мінск, каб узяць удзел у суботнім мітынгу супраць дыктатуры. У Салігорскім раёне 10 чалавек міліцыя затрымала і склала пратаколы. Суд вынес рашэнне — аштрафаваць. Пасля гэтага па дарозе да сталіцы хадакоў затрымлівалі яшчэ тройчы: у Слуцку, Уздзе і Мінскім раёне. Раённыя суды Слуцка і Узды адмовіліся распачынаць справы, паколькі «паломнікі» ўжо атрымалі пакаранні за *«парушэнне ўстаноўленага парадку шэсцяў і дэманстрацый»*.

Міліцыя Мінскага раёна схапіла трох прафсаюзных актывістаў увечары ў пятніцу 18 кастрычніка. Па словах старшыні Свабоднага прафсаюза Генадзя Быкава, у той дзень затрыманых удзельнікаў маршу не змаглі асудзіць, бо не знайшлі згаворлівага суддзі, які змог бы «прышыць» ім справу. Затрыманых змясцілі ў пастарунак Мінскага РАУС, дзе яны абвясцілі галадоўку.

У панядзелак суд пачаўся. Трох затрыманых хадакоў судзілі ажно два суддзі. На час падпісання нумару ў друк працэс яшчэ не скончыўся, і канчатковага рашэння мы не ведаем. Тым не менш арыштаваныя настроеныя рашуча і маюць намер усё ж дайсці да Мінска. Таму яны будуць патрабаваць, каб міліцыя адвезла іх да вёскі Вішнёўка Мінскага раёна — дзе іх затрымалі.

Нягледзячы на праследаванні міліцыі, некалькі салігорцаў дайшлі да фінішу і трапілі на мітынг. Сярод іх — старшыня прафсаюза трэцяга салігорскага рудаўпраўлення Валеры Гарбацэвіч. Падчас размовы з карэспандэнтам СВАБОДЫ ён сказаў, што гарнякі, якія дэлегавалі ў Мінск сваіх сяброў, вельмі абураныя, што Лукашэнка назваў іх «чорнарубашачнікамі». *«Прэзідэнцкія абвінавачанні абсалютна беспадстаўныя і абразлівыя»*, — заявіў В.Гарбацэвіч.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

На здымку: Шахцёры ідуць на Мінск.



## Прадпрымальнікаў хацелі разагнаць...

**Чарговы масавы сход прадпрымальнікаў адбыўся ў Магілёве на стадыёне «Спартак».**

Каля 300 чалавек высветлялі з намеснікам старшыні гарвыканкама У.Цумаравым адносіны наконт падаткаў і збораў (пра гэтую справу СВАБОДА нядаўна пісала). Месца сходу было ачэпленае амонаўцамі, а з камерсантамі спачатку паспрабаваў «разабрацца» палкоўнік міліцыі Цераха. Ён ледзь не арыштаваў кіраўніцтва Свабоднага прафсаюза, якое прысутнічала на сходзе. Але гандляры гарой сталі за сваіх прафсаюзных абаронцаў, а ў гарвыканкамаўскага чыноўніка хапіла розуму спыніць міліцэйскага начальніка. Сп.Цумараў мусіў прызнаць, што ўлада недасканала падышла да пытання збору падаткаў і ў чарговы раз паабяцаў, што ў бліжэйшы час стаўкі будуць перагледжаныя. Прадпрымальнікі згадзіліся заяўлены страйк 19 кастрычніка не праводзіць і пачакаць да 1 лістапада, калі ўлады павінны ўвесці новыя, больш мяккія стаўкі падатковых збораў.

**Іван ЗАСАДА**

*ЧТО ПИШУТ*

## Московские спецслужбы охраняют Лукашенко

*«В ближайшее время Александр Лукашенко не планирует увеличения своей охраны»*, — заявил в интервью корреспонденту «Собеседника» зам. главы администрации президента Беларуси Владимир Заметалин, комментируя разоблачение очередного заговора против отца белорусской нации. Сейчас жизнь белорусского лидера находится в руках четырех не расстающихся с ним никогда личных телохранителей, но г-н Заметалин попросил также считать внештатными охранниками Лукашенко все 10 миллионов жителей республики.

На вопрос, почему же все заговоры западных спецслужб против Лукашенко почему-то раскрываются именно депутатами российской Госдумы, в находящейся Бог знает где Москве, а не в Минске (что было бы логичнее), Заметалин ответил, что *«в российской столице на протяжении 70 лет сосредоточивалась элита КГБ из республик бывшего СССР — вот из этих-то источников и получают информацию российские политики»*. При попытке выяснить, почему шпионов не ловит госбезопасность Беларуси, Владимир Петрович с сожалением вздохнул: *«Понимаете, наши агенты как бы... э-э-э... провинциального уровня, поэтому мы очень надеемся на наших московских друзей»*. Поэтому, как было сказано неофициально, белорусская разведка планирует закупку в России новейших средств слежения. Кстати, телохранители Лукашенко, да и он сам, все-таки, видимо, опасаясь покушения, неделю назад оделись в трехкилограммовые бронежилеты, сделанные для них по спецзаказу в Москве. В Минске не нашли ничего лучшего, кроме как сослаться на наступившие холода — мол, время такое: нужно одеваться тепло.

*«Собеседник» (Москва)*

Георгий ТАРАЗЕВИЧ

# Президент идет напролом при помощи лжи



На здымку: па дарозе ў Палац спорту дэлегатаў «усенароднага сходу» даводзілася ахоўваць ад народа.

И делает это через так называемое «всебелорусское народное собрание». Но, как известно, простого народа там было мало. Подавляющее большинство участников — это вертикальщики, а также чиновники и хозяйственники, зависимые от них.

Депутаты (а они ведь народные) во Дворце спорта оказались только «хорошие». А «нехорошие» просто не были приглашены. За два дня до собрания председатель Верховного Совета мне лично говорил, что его не приглашают. Правда, затем, когда на сессии С.Шарецкий заявил, что не будет участвовать ни в собрании, ни в Конгрессе, ему созвонили пригласить приглашение во Дворец спорта. Г.Карпенко и другие «нехорошие» депутаты никаких приглашений не получали.

Следовательно (это вытекает непосредственно из слов Лукашенко), депутаты Верховного Совета разделены на «хороших» и «нехороших». «Хороших» маловато, только 84, — это те, которые голосованием через кабины поддержали Лукашенко.

Также разделено и общество. И пусть всенародноизбранный не утверждает обратного. Раздел этот произошел после референдума 1995 года. А сегодня он углубляется. И все меньше приверженцев остается на стороне президента.

Я был участником Национального конгресса и 30-тысячного митинга 19 октября. Смотрел по телевидению «президентское собрание». Разумеется, всматривался в лица людей на митинге и Конгрессе. Туда люди пришли добровольно, чтобы выразить свое отношение к проекту «конституции для диктатуры», к референдуму. Там были воодушевленные лица, дух единства, желание противостоять диктатуре.

И — сравниваю с лицами на собрании. Одни сидели, опустив головы, другие — смотрели в сторону. Аплодировало явное меньшинство. Но голосовали почти единогласно. Ведь за всеми следили районные, областные да и республиканские вертикальщики. А тех немногих, кто осмеливался голосовать против, даже заставляли в зале подняться, показать себя. Вот такая «демократия» была на этом собрании.

Более чем двухчасовое выступление Лукашенко и его длинная заключительная речь были очень эмоциональными. Этого у него не отнимешь. Он имеет талант актера. Правда, он, как и Жириновский, всегда играет сам себя. Приведу цитату: он *«...уяснил: устная речь среди населения воспринимается куда лучше, чем напечатанное слово. Именно эмоционально произнесенная речь, как в узких кругах, так и при большом сборище, стала для него инструментом овладения массами»*. Можно подумать, что это сказано о Лукашенко. Но на самом деле — это не о нем. Цитата эта — о Гитлере.

Любой простой гражданин Беларуси, который просмотрел по телевидению так называемое «народное собрание» 19 и 20 октября, хорошо понял, что собрание это было нужно Лукашенко для зомбирования народа, чтобы убедить народ принять через референдум конституцию всенародноизбранного, конституцию диктатуры. Таким путем надвигается государственный переворот. Президенту и его окружению нужна неограниченная власть, чтобы подольше побыть у руля, через империю Титенкова и различные незаконные фонды побольше заграбастать национального достояния, а затем — избежать ответственности.

А сколько все это стоит белорусскому народу? Уверяю читателей, что это миллионы и даже миллиарды долларов. За эти деньги, которые уже потрачены и еще будут потрачены на референдум, можно было бы обогреть не один населенный пункт в Беларуси, поддержать не одну тысячу обездоленных белорусов.

И все это прикрывается бессовестной ложью на каждом шагу. Собрание во Дворце спорта это еще раз подтверждает.

Надо же было додуматься и изречь, что Таразевич, как мышь, бегал и просил выступить на лукашенковском собрании. Да если бы даже Лукашенко прислал за мной свой «Мерседес» стоимостью сотни тысяч долларов — я бы к нему не поехал. И он это хорошо знает.

После моего возвращения из Варшавы ему было сказано: в сторону Лукашенко Таразевич никогда шага не сделает и даже при случайной встрече руку ему не подаст.

По отношению ко мне всенародноизбранный озвучил во Дворце спорта ложь, к тому же ложь наглую. Смею утверждать, что это была не единственная ложь, выплеснутая им из этого Дворца.

*ПОДРОБНОСТИ*

## Утопим Беларусь в «Кока-Коле»

Начавшееся строительство производственно-дистрибьюторского центра фирмы *Coca-Cola* в Беларуси является свидетельством того, что, во-первых, мы любим этот напиток настолько, что нам необходим свой завод по изготовлению коки, и, во-вторых, есть еще отважные инвесторы, рискнувшие вложить средства в Беларуси.

Эксперты считают этот проект одним из мощнейших на нашем рынке. *Coca-Cola* появилась у нас два года назад, создав совместное предприятие с Минским заводом безалкогольных напитков. Теперь назрела необходимость создания дополнительного собственного производства — объемы потребления «Кока-Колы», «Спрайта» и «Фанты», начиная с 1994 года, ежегодно вырастают в два раза. Кстати, в России оказался более популярным напиток конкурирующей компании *PepsiCo*.

СП *Coca-Cola Amatil* получило право аренды земельного участка в Колядичах на 99 лет — беспрецедентный пример в Беларуси. Вероятно, это в значительной степени и определило стремление иностранцев инвестировать в нашу экономику немалую сумму — 50 миллионов долларов.

Рассматривалось несколько вариантов размещения производства, в частности, поселок Обчак не подошел компании. Под строительство комплекса отвели территории колхоза им.Гастелло, который занимался выращиванием рапса.

К летнему сезону комплекс планируется ввести в строй. При этом Минский завод безалкогольных напитков, где в настоящее время разливают «Кока-Колу», будет работать параллельно с новым заводом, поэтому сокращения рабочих мест на старом предприятии не ожидается.

Как сказал в интервью корреспонденту СВАБОДЫ директор завода безалкогольных напитков Анатолий Артюховский, *Coca-Cola Amatil «показывает яркий пример нашей советской торговле, как надо работать»*. С другой стороны, г-н Артюховский недоволен расширением *Coca Cola*, так как *«развивается конкуренция, не хватает места на рынке для наших напитков, которые очень трудно продавать»*. По словам А.Артюховского, *«объемы отечественных безалкогольных напитков упали, и мы чувствуем некоторые сложности»*.

Выступая на церемонии открытия строительства, посол США в Беларуси Кеннет Яловиц отметил, что он желал бы продолжения инвестиционной деятельности американских компаний на территории нашей страны. Однако, как заявил г-н Яловиц, это возможно лишь в случае активного реформирования экономики, демократизации общества и неукоснительного соблюдения прав человека.

**Вероника СТРОЕВА**

## Можно жить в норвежском доме

**В рамках совместного норвежско-белорусского проекта в Минске построен дом, открытие которого состоялось 18 октября.**

Деревянное двухэтажное здание — своего рода образец типичного норвежского жилища — расположилось на проспекте Дзержинского и хорошо заметно на фоне ветхих избушек частного сектора. На редкость простая, но удобная планировка и электрическая система отопления вполне могут подойти жителям Беларуси.

Совместное предприятие «Норвежский дом» планирует наладить строительство и продажу таких домов в Беларуси. Для осуществления проекта будут использованы простаивающие мощности белорусского строительного комплекса. В производстве досок, черепицы и других стройматериалов, а также непосредственно в строительстве домов планируется задействовать местные ресурсы и рабочую силу. «Норвежский дом», построенный в Беларуси, обойдется покупателям примерно в 40 тысяч долларов США.

Учредителями СП «Норвежский дом» являются Мингорисполком и частная фирма «Бигместер Гранде». В уставный фонд с белорусской стороны был внесен земельный участок под дом, коммуникации и фундамент, что составило примерно 880 млн. белорусских рублей. Норвежцы привезли сам дом, который четыре норвежских специалиста собрали всего за 10 дней. Вклад норвежцев оценен в 200 тысяч долларов США.

Совместным норвежско-белорусским проектом предусмотрено расширение двустороннего сотрудничества и по другим направлениям: торговля, туризм, обмен технологиями и т.д.

**Вероника СТРОЕВА**

## Доллар – снова в рост

**Нацбанк 17 октября ввел новый коэффициент для котировок наличной валюты, повысив его до 1,3.**

Увеличение коэффициента с 1,2 до 1,3 подняло планку максимального обменного курса с 18.600 до 20.500 белорусских рублей за доллар. Вполне вероятно, что Нацбанк принял такое решение в ожидании предстоящего роста курса доллара, чтобы поддержать конкурентоспособность банков по отношению к «черному» рынку. По мнению экспертов, в ближайшее время ожидается рост доллара, связанный с выполнением постановления о погашении за счет банковских кредитов (читай: печатного станка) задолженности предприятий по зарплате.

**Алесь САДОВСКИЙ**

## Сатаністы спалілі царкву

**У Заслаўі Мінскай вобласці згарэла праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква — помнік культавага дойлідства, змураваны ў 17 ст. як кальвінісцкі збор, а ў 19 ст. перароблены ў царкву.**

Агонь узняўся пад купалам бажніцы ў 22 гадзіны 19 кастрычніка. Калі жыхары горада прыбеглі ратаваць царкву, то ўбачылі, што яе сцены распісаныя сатанісцкімі знакамі, а над уваходам быў злавесны надпіс «Смерць хрысціянам».

Экіпаж першай пажарнай машыны здолеў збіць полымя, але скончылася вада. Пакуль пажарныя ездзілі запраўляцца, агонь зноў разгарэўся. І яго ўжо не змаглі патушыць нават 10 пажарных машын, якія прыехалі на месца здарэння.

Па факце падпалу міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу.

**Анатоль МІРСКІ**

## Генералаў судзяць, але не садзяць

**Адбыўся першы ў гісторыі незалежнай Беларусі суд над генералам.**

Мінскі міжгарнізонны суд разглядаў справу генерал-маёра запасу Віктара Ніканава. Пракуратура абвінавачвала яго ў службовых злоўжываннях, якія мелі цяжкія наступствы, за што артыкул 249 Крымінальнага кодэкса РБ прадугледжвае нават турэмнае зняволенне. В.Ніканаву інкрымінавалася выкарыстанне падначаленых яму вайскоўцаў падчас рамонтных работ у ягонай кватэры, а таксама самавольнае распараджэнне чужой маёмасцю — аднойчы генерал падчас праверкі вайсковага аб'екта загадаў «ачысціць» памяшканне ад рэчаў, якія належалі мясцовым рабочым. Гэтыя людзі і падалі іск у суд; адбыўся скандал, у выніку якога В.Ніканаў страціў пасаду. Але толькі цяпер сваё слова ў гэтай справе сказаў суд. Ён прызнаў В.Ніканава вінаватым толькі ў выкарыстанні дармовай працоўнай сілы і пакараў генерала штрафам у памеры 3 мільёны рублёў.

Цяпер суда чакае яшчэ адзін былы беларускі генерал, які ў свой час камандаваў базай ракетнай тэхнікі «Коласава», у Стаўбцоўскім раёне, адкуль было скрадзена каляровых металаў на некалькі сотцень мільёнаў рублёў. Цікава, ці абыдзецца і гэты ваеначальнік толькі грашовым штрафам?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Не дай Бог выбухне...

**Спецыялісты не выключаюць, што слуцкая трагедыя, калі на працягу некалькіх тыдняў рваліся снарады на вайсковых складах, можа паўтарыцца ў Віцебску.**

Рэч у тым, што ў 1973 г. каля вёскі Уланавічы Віцебскага раёна былі пабудаваныя артылерыйскія склады, якія цяпер належаць 317-й асобнай мабільнай брыгадзе. З цягам часу горад пашырыўся, і сёння вакол складоў ужо пабудавана каля 200 прыватных дамоў. Цяжка сабе ўявіць, колькі будзе ахвяраў, калі, не дай Бог, выбухне 60 вагонаў снарадаў, нашпігаваных узрыўчаткай, — прыкладна 270 т выбуховых рэчываў.

Аднак, каб пабудаваць новыя склады і перавезці туды ўвесь гэты небяспечны груз, вайскоўцам спатрэбіцца 50 млрд. рублёў.

**Ф.П.**

## Снарад разарваўся ў руках

**У мінулы аўторак, 15 кастрычніка, ад выбуху снарада загінуў 16-гадовы жыхар Віцебска Алег Акулаў.**

У гэты дзень ён прыехаў да свайго сябра ў вёску Белева Віцебскага раёна, каб дапамагчы яму адрамантаваць аўтамабіль. Але чамусьці Алег заняўся не рухавіком, а з адвёрткай у руках калупаўся ў снарадзе, які прывёз з сабой. Прагучаў выбух. «Майстру» адарвала абедзьве рукі, параніла твар і грудзі. Калі прыехала хуткая дапамога, Алег ужо не дыхаў. За жыццё ягонага сябра, гаспадара машыны, змагаюцца дактары.

На кватэры Алега міліцыя знайшла яшчэ 3 снарады.

**Фёдар ПРЫГОЖЫ**

*КАДРЫ*

## Сходка скончылася

*На здымку: Палац спорту ў Мінску.*



*СПОРТ*

# Футбольныя трагедыі

### ШАХМАТЫ: ГЕЛЬФАНД БЛІЗКІ ДА ПЕРАМОГІ

Ужо ў дэбюце традыцыйнага Тылбургскага турніру ў Галандыі мінскі гросмайстар Барыс Гельфанд выйшаў на другое месца ўслед за былым рыжанінам Аляксеем Шыравым. У восьмым туры лідэры селі за адзін столік. Наш зямляк, гуляючы белымі фігурамі, атрымаў перамогу на 42-м ходзе і адзінаасобна ўзначаліў гонку за першым прызам. У Гельфанда — 5,5 ачка з 8, на паўачкі менш у Люка ван Вэлі (Галандыя), 4,5 у Шырава (Іспанія), Еруна Пікета (Галандыя) і 17-гадовага Петэра Лека (Венгрыя). Чэмпіён свету па версіі *FIDE* Анатоль Карпаў (Расія) з 3,5 ачка дзеліць с французам Лацье 8-9-е месцы. Да канца спаборніцтваў засталося тры туры.

### ВАЛЕЙБОЛ: ТРЭНЕР, ЯКІ ПЕРАМАГАЕ

Гуляючы трэнер чэмпіёнаў Беларусі валейбалістаў СКА (Мінская вобл.) Ігар Загорцаў можа быць задаволены: яго гадаванцы выйшлі ў наступны круг Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў. У Харкаве яны ўжо пасля перамогі ў першым сэце вырашылі пастаўленую задачу. У Мінску гаспадары ўзялі верх — 3:0. Лік харкаўскага матчу на карысць «Лакаматыва» — 3:1. Цяпер мінчан чакае сустрэча з чэмпіёнам Турцыі.

### ГАНДБОЛ: СКА — У ЛІЗЕ ЧЭМПІЁНАЎ

І тут армейцы парадавалі. Гандбалісты СКА ў адказным матчы 1/16 Кубка чэмпіёнаў ліквідавалі дэфіцыт у адзін мяч, прайграны ў Аўстрыі «Лінцу» — 23:18. Цяпер мінчане папалі ў Лігу чэмпіёнаў, дзе працягнуць барацьбу ў групавым турніры.

### ФУТБОЛ: ЕЎРАПЕЙСКІЯ КУБКІ

Футбалісты «Пары Сэн-Жэрмэн» менш за паўгода таму ўпершыню завалодалі Кубкам кубаў. А ўжо ў 1/8 фіналу новага розыгрышу парыжане, прайграўшы ў Стамбуле «Галатасараю» — 2:4, павіслі над безданню вылету.

«Бенфіка» (Партугалія) — «Лакаматыў» (Масква) — 1:0, «Фіярэнціна» (Італія) — «Спарта» (Чэхія) — 2:1, «С'ён» (Швейцарыя) — «Ліверпуль» (Англія) — 1:2, «Барселона» (Іспанія) — «Црвена Звезда» (Югаславія) — 3:1, «Бран» (Нарвегія) — «Эйндховен» (Галандыя) — 2:1, «Алімпія» (Славенія) — АЕК (Грэцыя) — 0:2, «Нім» (Францыя) — АНК (Швецыя) — 1:3.

У Кубку *UEFA* маскоўскі «Спартак» прайграў у Германіі «Гамбургу» — 0:3, дынамаўцы Тбілісі перамаглі дома партугальскі клуб «Боавішта» — 1:0, варшаўская «Легія» мірна разышлася з турэцкім «Бешыкташам» — 1:1.

### ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ

26-й тур: «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) — «Дынама» (Мінск) — 1:4, «Белшына» (Бабруйск) — МВКЦ (Мазыр) — 1:2, «Ведрыч» (Рэчыца) — «Дынама-93» (Мінск) — 0:4, «Шахцёр» (Салігорск) — «Атака-Аўра» (Мінск) — 3:2, «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў) — «Днепр» (Магілёў) — 2:1, «Тарпеда» (Мінск) — «Нёман» (Гродна) — 0:0, «Дынама» (Брэст) — «Лакаматыў-96» (Віцебск) — 3:3, «Абутнік» (Ліда) — ФК Маладзечна — 0:1.

| | Г | А |
|---|---|---|
| 1. «Дынама» (Мінск) | 26 | 69 |
| 2. МВКЦ | 26 | 68 |
| 3. «Белшына» | 26 | 54 |
| 4. «Дынама-93» | 25 | 46 |
| 5. «Лакаматыў-96» | 26 | 45 |
| 6. «Атака-Аўра» | 26 | 41 |
| 7. «Нафтан-Дэвон» | 26 | 37 |
| 8. ФК Маладзечна | 26 | 36 |
| 9. «Днепр» | 26 | 34 |
| 10. «Дынама» (Брэст) | 26 | 29 |
| 11. «Шахцёр» | 26 | 25 |
| 12. «Тарпеда-Кадзіна» | 26 | 23 |
| 13. «Абутнік» | 26 | 20 |
| 14. «Нёман» | 25 | 19 |
| 15. «Тарпеда» | 26 | 19 |
| 16. «Ведрыч» | 26 | 15 |

Цэнтральны матч чэмпіянату адбудзецца 24 кастрычніка ў Мазыры, дзе мясцовы МВКЦ будзе аспрэчваць першынство ў пяціразовых чэмпіёнаў краіны дынамаўцаў Мінска.

### БРАЗІЛІЯ ЗАЎВАЖЫЛА ЛІТВУ

Таварыскі матч зборных Бразіліі і Літвы адбыўся ў Тэрасіне. Гаспадары — чатырохразовыя чэмпіёны свету — дасягнулі ўпэўненай перамогі над прыбалтамі — 3:1, прычым 20-гадовы Раналда зрабіў хет-трык. Аднак сам факт запрашэння літоўцаў у якасці спарынг-патрнёраў лідэрамі сусветнага футболу робіць гонар тым і другім. Ці дачакаецца нашая зборная такога?

### ТРАГЕДЫЯ Ў ГВАТЭМАЛЕ

Больш за 80 чалавек загінулі, а 500 атрымалі траўмы перад пачаткам адборачнага матчу чэмпіяната свету-98 паміж зборнымі Гватэмалы і Коста-Рыкі. Каля 8 тысяч заўзятараў, якім не хапіла ўваходных білетаў, зламалі вароты і рынуліся на стадыён. Тыя, хто паваліўся, былі бязлітасна растаптаныя звар'яцелым натоўпам. У Гватэмале была аб'яўлена трохдзённая жалоба.

### ...І Ў ПОЗНАНІ

38 параненых паліцыянтаў, разгромленыя стадыён і крамы, дзесяткі перавернутых аўтамабіляў — такія сумныя наступствы хуліганства мясцовых заўзятараў, учыненага ў час і пасля матчу чэмпіяната Польшчы «Лех» (Познань) — «Легія» (Варшава). Варшавяне перамаглі — 2:0. Яшчэ ў час гульні на поле ляцелі бутэлькі, петарды, выдзертыя пластыкавыя крэслы, а ужо па яе сканчэнні бясчынствы выліліся і на вуліцы горада. 14 злосных хуліганаў арыштаваныя.

**Сямён ПЛОЦ**

## Вернікі святкуюць юбілей уніяцкай царквы

**У пятніцу, 18 кастрычніка, у Мінску адбылося ўрачыстае набажэнства, прысвечанае 400-годдзю Берасцейскай уніі.**

У капліцы Маці Божай Нястомнай дапамогі, якая месціцца ў цесным памяшканні шматпавярховага дома (вул.Прытыцкага, 38), сабраліся дзве мінскія ўніяцкія парафіі. Дзіўна, што набажэнства не перанеслі ў адзін з мінскіх касцёлаў. Звычайна вялікія святы грэка-каталікі адзначаюць у касцёле св.Сымона і Алены. Відаць, каталіцкія ўлады на гэты раз не далі дазволу.

На свята ў капліцу прыехаў папскі нунцый арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, які распавёў пра нялёгкі лёс грэка-каталікоў у Славакіі, дзе ўніяцкая царква да 1968 года знаходзілася ў падполлі.

Кіраўнік дэканата беларускай грэка-каталіцкай царквы, протапрэсвітэр айцец Ян Матусевіч прачытаў пасланне да вернікаў ад апостальскага візітатара для беларусаў грэка-каталікоў у замежжы айца Аляксандра Надсана. У пасланні згадваецца цяжкая гісторыя БГКЦ. У 17-18 стагоддзях Унія развівалася пераважна на беларускіх землях. Усе тагачасныя мітрапаліты былі беларусамі. У нашай краіне Унія мела свайго першага пакутніка Язафата, арцыбіскупа Полацкага, закатаванага праціўнікамі еднасці ў 1623 годзе. Да яго трэба дадаць 5 айцоў-базыльянаў з Полацкага манастыра, якіх у 1705 годзе забіў рускі цар Пётр І. Базыльянскія кляштары ў Вільні і Супраслі, а таксама Жыровіцкі, дзе першым ігуменам быў Святы Язафат, славіліся далёка за межамі Беларусі. Як піша айцец Аляксандр Надсан, *«у канцы 18 стагоддзя тыя сілы, якія адмаўлялі беларусам у праве на існаванне як самастойнай нацыі, з асаблівай зацятасцю ўзяліся за знішчэнне БГКЦ»*. Айцец Аляксандр лічыць, што *«іх мэты былі не рэлігійныя, а палітычныя»*. Пасля другой сусветнай вайны БГКЦ працягвала жыць у Лондане, Парыжы, Чыкага і Рыме. Папа Рымскі ў 1960 г. даў беларусам (пасля амаль 150-гадовага перапынку) першага ўніяцкага біскупа. Айцец Аляксандр Надсан падкрэслівае, што *«ідэя Уніі неўміручая»*.

Святкаванні з нагоды 400-годдзя Берасцейскай уніі працягнуцца ў лістападзе ў Полацку, Віцебску, Лідзе і Брэсце.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

*ГРАНІЦА*

## Беларусы – хітрэйшыя

**На беларуска-літоўскай мяжы была праведзеная аперацыя «Рубеж-96».**

Нашыя памежнікі ў гэты час рабілі максімум высілкаў, каб мяжа, як раней казалі, была на моцным замку. Напрыклад, у Ашмянскім раёне ўдалося затрымаць 26 парушальнікаў мяжы. Большасць парушальнікаў — грамадзяне Літвы. Цікава, што ў шмат якіх выпадках нашыя жыхары дапамагалі ім, паведамляючы, дзе лепш пераходзіць мяжу, каб не сутыкнуцца з беларускімі памежнікамі.

Літоўцы за гэты час затрымалі толькі двух жыхароў Ашмянскага раёна. Гэта можа сведчыць пра тое, што беларусы хітрэйшыя і лепш абазнаныя ў нелегальных пераходах у суседнюю краіну. У памежных райцэнтрах існуе добра адпрацаваная сістэма нелегальнага турызму. Пасажыраў, якія не маюць візаў, дастаўляюць аўтатранспартам да вызначанага месца на мяжы, якую яны пераходзяць пешшу, — а потым зноў сядаюць у аўтамабіль або мікрааўтобус ужо на літоўскай тэрыторыі. Звычайна нелегалы едуць у Вільню.

У Вільні жыве шмат моладзі з нашых памежных раёнаў. Мяжа ўскладніла ім пастаянныя кантакты з домам, з роднымі і сваякамі. Беларускія ўлады да ўсяго яшчэ стварылі вельмі шырокую памежную зону, рух у якой абмежаваны. Гэта выклікае натуральнае незадавальненне людзей. Да прыкладу, за час аперацыі «Рубеж-96» у Ашмянскім раёне было затрымана 36 чалавек, якія не мелі дазволу на знаходжанне ў памежнай зоне.

**В.ВАСІЛЕВІЧ**








Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 46.950
Нумар падпісаны ў друк 21.10.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2623